Цана асобнага нумару 20 гр.



Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 19 (166) Вільня, Субота 25 Лютага 1928 г. Год IV.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!
Зямля сялянству бяз выкупу!

АДРЭС РЭДАКЦЫІ І АДМІНІСТРАЦЫІ:
Вільня, Вострабрамская вул. № 8, кв. 1.
(Wilno, ulica Ostrobramska Nr. 8, m. 1).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадз. апрача сьвят.
Рэдактар прыймае ад 12-ай да 2-ой гадзіны.

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.
Беларуская палітычная, грамадзкая, літэратурная і гаспадарчая газэта.
— ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ. —

ПАДПІСКА:
На адзін месяц — 1 злоты, на тры месяцы — 3 зл., на шесьць месяцаў — 4 зл., на год — 8 зл.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

## АДОЗВА

### Беларускага Нацыянальнага Камітэту у Вільні.

Грамадзяне Беларусы!

Выбарная кампанія ўжо падыходзіць да свайго канца. Ужо блізкі той час, калі Вы ўсе павінны сваімі адносінамі да выбараў выявіць сваю нацыянальную і палітычную сьпеласьць, а разам з тым і зрабіць той, ці іншы ўплыў на сваё нацыянальнае і сацыяльнае адраджэньне!

Выбары ў Сойм і Сэнат у 1922 годзе ясна выявілі *нашую беларускую народную сілу ў Польшчы,* калі мы, далучыўшыся да Блёку Нацыянальных Меншасьцяў, правялі ў Сойм і Сэнат аж 14 сваіх прадстаўнікоў. Але гэтыя-ж выбары яшчэ ясьней паказалі нам, Беларусам, тое, што *маглі-б* мы, Беларусы, зрабіць, калі-б ня тая наша гаротная цемната, з прычыны якой ледзьве не палова беларускіх галасоў падана за польскія партыі: «П. П. С.» і «Вызваленьне».

Калі-б тады ня гэта наша беларуская цемната, мы маглі-б правясьці ў Сойм і Сэнат *ня менш 25 асоб,* якія там, у парляманце, дзе ўсё рашаецца большасьцю галасоў, бязумоўна адыгралі-б большую ролю і мелі-б больш ўплыў на справы.

Калі-б тагды ня гэта наша беларуская цемната, не правялі-б тады мы тых людзей, якія пасьля галасавалі за асаднікаў і праводзілі школьны закон, які ня даў нам ніводнай школы.

Цяпер мы ўжо ня зробім гэтай памылкі, бо цяпер кожны Беларус, і малы і стары, і ў месьце і ў самай далёкай цёмнай вёсцы, добра ведае, што такое «П. П. С.» і «Вызваленьне» і галасоў за іх не падасьць.

Але здарылася ў нас іншае, яшчэ горшае гора. Самі Беларусы падзяліліся на некалькі групаў. Праўдзівей сказаць, ня мы, а чужынцы наўмысьля падзялілі нас і цяпер стараюцца яшчэ больш паглыбіць наш разлад і тым больш і больш разьбіваць нашу выбарную сілу.

А між іншым, гэтыя выбары для нас маюць яшчэ большае значэньне, чым папярэднія. Цяпер, калі справа нацыянальных меншасьцяў, справа абароны іх праваў ува ўсіх дзяржавах, ужо перайшла межы ўнутраных справаў і стала справай міжнародных паразуменьняў, цяпер, калі беларускай справай зацікаўлены ўвесь сьвет,—цяпер нам бязумоўна ёсьць асобная патрэба выявіць і сваю лічбовую сілу і сваю нацыянальную сьведамасьць.

*Беларускі Нацыянальны Камітэт,* які аб'еднывае ў сабе ўсе ўзапраўдныя беларускія палітычныя партыі, якія існавалі ў Польшчы перад выбарамі, а таксама розныя культурна-гаспадарскія і асьветовыя беларускія арганізацыі, зварочваецца да Вас, грамадзяне, са шчырым, гарачым заклікам:

*у час гэтых выбараў кінуць усялякія спрэчкі, кінуць унутраную барацьбу, кінуць узаемнае абліваньне памыямі адзін аднаго і аб'яднацца ў адзін дружны і моцны нацыянальны фронт!*

Але каля каго аб'яднацца? За каго галасаваць?

Беларускі Нацыянальны Камітэт стаіць на міжпартыйным нацыянальным грунце. Дзеля гэтага ён ня можа і ня будзе ганіць тую, ці іншую беларускую групу, як з тых, якія ўвайшлі ў Камітэт, так і з тых, якія яшчэ не ўвайшлі ў яго склад,—бо кожная беларуская, узапраўды беларуская арганізацыя, мае права на існаваньне.

Але Беларускі Нацыянальны Камітэт, які стаіць на варце беларускай нацыянальнай справы, якому з яго аб'яднаўчай вышыні лепш відаць гэтая справа, бярэ на сябе абавязак высьвятліць гэту выбарную справу перад Вамі, каб Вы зусім сьвядома прынялі тое, ці іншае рашэньне.

Слухайце-ж Беларусы! Слухайце ўсе: сяляне і работнікі, слухайце нялічная беларуская інтэлігэнцыя, слухайце беларускае духавенства, — тыя, хто не аддзяліўся ад Беларускага Народу, хто любіць яго, хто сумуе аб яго цяжкай долі, хто радуецца яго пасьпеху, хто змагаецца за яго будучыню!

Усе беларускія партыі разьбіліся на дробныя кавалкі, толькі тыя арганізацыі, якія стварылі Блёк Нацыянальных Меншасьцяў, ня толькі не раз'ядналіся, а наадварот, змаглі аб'яднаць у Беларускім Цэнтр. Выбарным Камітэце аж чатыры беларускіх палітычных арганізацыі. Аб'яднаўшыся між сабой, яны яшчэ больш узмацнілі сябе далучыўшыся да Блёку Нацыянальных Меншасьцяў. Дзякуючы гэтаму, толькі адна беларуская арганізацыя змагла падаць дзяржаўны сьпісак і гэтым аб'яднаць беларускую выбарную справу на ўсей Польшчы.

Іншыя беларускія групы і партыі, не гаворачы ўжо аб яўна здрадніцкіх, якія працуюць за грошы польскіх партыяў, ня маюць свайго агульнага нумару. Яны, разьбіўшыся на кавалкі, падалі свае сьпіскі толькі ў некаторых вокругах. Дзеля гэтага яны ня маюць надзеі правясьці шмат сваіх кандыдатаў, але за тое яны *могуць нарабіць многа шкоды беларускай выбарнай справе, адрываючы галасы ад агульнага беларускага блёку.*

Дзеля гэтага кожны Беларус павінен добра памятаваць і добра ведаць, што:

*Той, хто з Беларусаў зусім ня ідзе на выбары, ці той, хто 4-га ці 11-га сакавіка будзе галасаваць не за 18, а за іншы які нумар, той адрывае, як ад жывога цела, ад свайго Беларускага Народу кавалак яго сілы, яго моцы, — той здраджвае сваю Бацькаўшчыну, той прадае за чужыя пасулы свае родныя беларускія інтарэсы, інтарэсы свайго роднага кроўнага народу, той абніжае яго павагу і яго нацыянальны рост!*

Кіньце-ж, Беларусы, усе спрэчкі, усе непаразуменьні, мы разлічымся пасьля між сабой у сваім унутраным жыцьці, а цяпер, у час выбараў, ідзіце ўсе адзіным супольным фронтам, адной сьцяной, усім мірам-народам, як адзін чалавек, і *галасуйце толькі за супольны беларускі блёк, толькі за* **№ 18.**

**18** *Гэта нумар Беларускага Цэнтр. Аб'яднан. Камітэту Блёку Нацыян. Меншасьцяў, дык усе Беларусы павінны галасаваць за гэты нумар* **18**

## Да ведама мужоў даверу.

Выпіскі з „Ordynacji wyborczej do Sejmu", uchwalonej dnia 28 lipca 1922 roku (Dz. U. R. P. Nr 66 z 18.VIII. 1922 roku poz. 590).

Арт. 63.

Уваход у выбарнае памешканьне маюць толькі выбаршчыкі і мужы даверу выбарных групаў, прысланыя паўнамоцнікамі з пасярод мясцовых выбаршчыкаў па аднаму ў кожную камісію, ці заступнікі гэтых мужоў даверу па аднаму для кожнага з іх.

Арт. 65.

1) Старшыня можа выдаліць з выбарнага памешканьня тых асоб, якія парушаюць супакой, або агітуюць з забаронаю паваротy, не пазбаўляючы аднакжа іх права аддаць голас.

2) Мужа даверу, ці яго заступніка выбарная камісія можа выдаліць з выбарнага памешканьня толькі пасьля безрэзультатнасьці папярэдняга напомненьня, адзначаючы факт і яго прычыны ў пратаколе камісіі.

Арт. 69.

1) Стол, за якім засядае выбарная камісія, трэба паставіць так, каб з усіх бакоў быў відзены. Мужы даверу засядаюць пры стале камісіі. На стале трэба паставіць выбарную урну, каторая павінна быць так збудавана, каб без адчыненьня ня можна было дастаць з яе картачак да галасаваньня.

2) Экзэмпляр гэтай выбарнай ардынацыі павінен быць на стале камісіі для публічнага ўжытку.

3) Перад распачацьцем галасаваньня камісія і мужы даверу павінны праканацца, ці урна ёсьць пустая. Ад гэтага часу аж да канца галасаваньня ні ў якім выпадку адчыняць ня можна.

Арт. 75.

1) Кожны сябра камісіі і кожны муж даверу можа выступіць з закідам што да тожсамасьці асобы галасуючага. Закіды гэтыя могуць быць роблены толькі датуль, пакуль асоба, аб якой ідзе, не аддала голасу.

2) У такім выпадку, старшыня выбарнай камісіі, за згодаю камісіі, можа патрэбаваць ад галасуючага сьцьверджаньня тожсамасьці яго асобы; калі асоба, каторай тожсамасьць аказалася сумліўнаю, не даставіць дакумантаў, прызнаных камісіяю выстарчаючымі, можа саслацца на заяву двух сьведкаў, асабіста ведамых хоць-бы аднаму сябру камісіі. Прозьвішчы гэтых сьведкаў і прозьвішча сябры камісіі, які ведае іх асабіста, будуць адзначаны ў пратаколе камісіі.

3) На пастанову камісіі ў справе тожсамасьці выбаршчыка няма **жалабы (odwołania).**

4) У выпадку неаднамыснасьці павышшых пастановаў камісіі трэба адзначыць гэта ў пратаколе.

Арт. 80.

Зараз-жа па зачыненьню галасаваньня камісія прыступае да аблічэньня выніку ў прысутнасьці мужоў даверу, ці іх заступнікаў.

Арт. 82.

1) Па акапчаньню гэтай чыннасьці Абвадовая Камісія неадкладна прыступае да абліченьня галасоў, аддадзеных на асобныя сьпіскі кандыдатаў.

2) З гэтаю метаю адзін з сяброў камісіі адчыняе канвэрт кожны асобна, вымае з яго картачку да галасаваньня і паразгляду яе падае старшыні, каторы галасна чытае зьмест картачкі, пасьля паказаўшы яе мужом даверу, аддае яе разам з канвэртам другому сябру камісіі для спраўджаньня і захаваньня яе аж да канца абліченьня. Падчас чытаньня старшынёю, два сябры камісіі робяць адпаведныя запіскі на фармулярах, дастаўленых на кошт Скарбу Дзяржавы цераз Міністра Ўнутраных Справаў. Па акапчаньню гэтых чыннасьцяў аблічваецца на абодвых фармулярах лік галасоў, якія прыпадаюць на асобныя сьпіскі. Лічбы гэтыя на абодвых фармулярах павінны згаджацца з сабою і адпавядаць ліку важна аддадзеных галасоў.

3) Абодва сьпіскі павінны быць падпісаны ўсімі сябрамі камісіі і далучаны да пратаколу.

Арт. 86.

1) Са сваіх чыннасьцяў Абвадовая Выбарная Камісія сьпісвае пратакол згодна наўзору, зацьверджанага Міністрам Унутраных Справаў.

2) У гэтым пратаколе павінна быць увідочнена: 1) лік асобаў, маючых права выбіраць згодна сьпіску выбаршчыкаў, каторы служыў падставаю галасаваньня, 2) лік выбаршчыкаў галасуючых, 3) лік галасоў няважных згодна арт. 83, 4) лік галасоў важных, 5) лік галасоў, важна аддадзеных на паасобныя сьпіскі кандыдатаў, прычым адзначыць трэба, колькі з іх было спорных.

3) Пратакол мусіць быць падпісаны ўсімі прысутнымі сябрамі камітэту і мужамі даверу, а затым разам з картачкамі да галасаваньня і сьпіскамі выбаршчыкаў, ужытымі ў часе галасаваньня, неадкладна маюць быць адасланы ў Акружную Выбарную Камісію.

4) Кожны сябра камісіі ці муж даверу, калі ўважае, што пратакол ня згодны з запраўднасьцю, мае права падыктаваць сваю заяву ў гэтай справе, або падаць яе на пісьме.

5) Гэтая заява павінна быць далучана да пратаколу.

— —

У вышэй зьмешчаных артыкулах пададзены правы і абавязкі мужоў даверу. Незалежна ад гэтага кожны муж даверу павінен запісаць асобна на картачцы паперы ўсе дадзеныя з пратаколу, пералічаныя ў арт. 86 пункт 2, прычым пры падлічэньні галасоў трэба адразу запісваць, за які нумар быў пададзены голас. Усе дадзеныя з пратаколу мужы даверу павінны неадкладна перадаць свайму Інструктару Беларускага Аб'ядн. Выбарнага Камітэту Блёку Нацыянальных Меншасьцяў, або выслаць поштай у Цэнтральны Камітэт у Вільню, Вострабрамская 8—1.

Беларускі Цэнтральны Аб'яднаны Выбарны Камітэт Блёку Нац. Меншасьцяў.

**Грамадзяне Беларусы! Галасуйце за сьпісак № 18**

# Працэс „Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады".

*(Першы дзень).*

(Паводле вестак польскай прэсы).

23 лютага 1928 году пачаўся даўно чаканы працэс 56 Беларусаў — сяброў б. „Грамады".

Будынак Віленскага Акружнага Суду, дзе разглядаецца гэтая цікавая для ўсяго грамадзянства справа, мае выгляд надзвычайны: перад ім таўпяцца людзі, а ў сярэдзіне — усюды пастарункі паліцыі. Ніхто ня можа папасьці на салю паседжаньня Суду, апрача тых, хто мае спэцыяльныя картачкі на ўход да салі.

Ужо перад 7-ю гадзінаю раніцы вастрожнымі карэткамі пад абаронаю пешых і конных паліцыянтаў — у Суд былі перавезены групамі ўсе абвінавачаныя з вастрогу на „Лукішках". Для абвінавачаных прыстаўлена некалькі лавак, сьведкі сканцэнтраваны ў салі Апэляцыйнага Суду.

Роўна а 11 гадзіне распачынаецца Суд. Старшыня — Аўсянка, судзьдзі: Ядзэвіч, Барэйко і запасны судзьдзя Бжозоўскі. Пракуроры: Калапскі і Раўзэ. Сэкрэтары Суду: апліканты Коркуць і Адынец.

За сталамі абароны сядзяць адвакаты: Бабяньскі, Дурач і Эттынгер — з Варшавы, і месцовыя: Абрамовіч, праф. Петрусэвіч, Кшыжаноўскі, Сенкевічанка, Залкінд, Мат'яш, Прэйс, Раманкевіч. Апліканты мясцовых адвакатаў: Варатынскі, Марціноўскі і Сольц. Варшаўскія адвакаты Сьмяроўскі і Гонігвіль на першы дзень працэсу ня прыехалі.

Пры сталох для прадстаўнікоў прэсы, апрача справаздаўцаў мясцовых і сталічных польскіх газэтаў, сядзяць спэцыяльныя прадстаўнікі: „ТАСС"-а (афіцыянальнага савецкага тэлеграфнага агенцтва) — Кавальскі, маскоўскіх „Известий" — Брацін і Нью-ёрскага „Форвэртс"-у — Вейнрайх.

На салі—радня абвінавачаных, між іншымі жонкі: Астроўскага, Рак-Міхайлоўскага, Тарашкевіча, Каўша і Луцкевіча.

Старшыня Суду азнайміў, што працэс будзе разглядацца пры адчыненых дзьверах і толькі ў выпадках датычачых дзяржаўных тайнаў — дзьверы для публікі будуць зачынены.

Спраўджаньне фармуляраў абвінавачаных , пачалося ад б. пасла, праф. Тарашкевіча. Па спраўджаньні выясьняецца, што большасьць абвінавачаных — дробныя земляробы, толькі некалькі асобаў маюць вышэйшую або сярэднюю адукацыю. Між абвінавачаных — 1 паляк (Навакоўскі) і 1 татарын (Міськевіч). Рэшта—ад крыві і косьці Беларусы. Большасьць — праваслаўныя, зусім мала каталікоў, 1 магамэтанін (Міськевіч) 1 мэтадысты (Бурсэвіч). Прызналіся „bezwyznaniowcami" (ня прыналежнымі ні да якае існуючае веры): былыя паслы Тарашкевіч і Валошын, а такжа гр. гр. Луцкевіч і Козіч.

Усе абвінавачаныя Суду свабодна і жыва адказваюць пабеларуску, нават паляк Навакоўскі і татарын Міськевіч.

Пры спраўджаньні сьведкаў выясьнілася: з пазваных пракуратураю 421, ня прыехала 88. З паданых прозьвішчаў 242 сьведкаў з боку абвінавачаных прыехала на першы дзень працэсу 43. Між прозьвішчамі сьведкаў з боку абвінавачаных чутны былі такія прозьвішчы: Тугут, Хаміньскі, Касмоўская, Абрамовіч, Заштовт (для Тарашкевіча); Уласаў (для Міхайлоўскага); Бартэль і 8 прафэсараў (для Астроўскага); духоўныя асобы: Самойлаў, Беляеў, Марозаў, Васілеўскі і гр. Багдановіч (для Каўша); Мін. Васілеўскі, Тугут, Макоўскі, Сумарок, кс. Талочка, адв. Юндзіл, д-р Чарноўскі, д-р Выгодзкі, Янкоўскі (для Луцкевіча).

Пракуратура дамагаецца адчытаньня паказаньняў тых сьведкаў, каторы, па важных прычынах ня прыехалі на працэс.

Абарона-ж (першым выступіў праф. Петрусэвіч), просіць аб адкладзе справы, бо шмат сьведкаў, паказаньні якіх маюць важнае значэньне ў гэтым працэсе, не зьявілася.

Пасьля перарыву Суд пастанаўляе працэс прадаўжаць, сьведкам—паслаць паўторныя павесткі.

Сьведкі прыводзяцца да прысягі групамі па 50 асобаў, пры чым „bezwyznaniowcy" асьвядчаюць Старшыні Суду, што будуць гаварыць праўду. Пасьля прысягі кожнаму сьведку вызначаецца дзень, на каторы ён павінен зьявіцца ў Суд для паказаньняў.

На гэтым закончана першы дзень працэсу.

**Гэтыя нумары, каторыя надрукааны збоку, выраж і імі галасуй 4-га сакавіка ў Сойм, 11-га ў Сэнат. Лішнія нумары аддай суседзям. Глядзі толькі, каб нумары былі чыстыя.**

## Арышт б. п. Ярэміча

**22 лютага б. пасол Ярэміч выехаў у Ашмяну на павятовы зьезд Аб'яднанага К-ту Блёку Нац. Меншасьцяў, які меўся быць 23 лютага, але на зьездзе б. п. Ярэміч ня быў прысутным.**

**Яго да адчыненьня зьезду арыштавалі органы Ашмянскай паліцыі.**

**Польскія газэты пішуць, што б. пасол Ярэміч арыштаваны па распараджэньню пракурорскіх уладаў, якія вінавацяць яго ў антыдзяржаўнай дзейнасьці. Апрача гэтага, проціў б. пасла Ярэміча ўзбуджана справа па 129 арт. К. К.**

## НАВІНЫ.

**— Суд над б. паслом Рагуляю.** 27 лютага Наваградзкі Акружны суд будзе разглядаць справу б. пасла Рагулі, вінавачанага па 129 арт. К.К. за „антыдзяржаўную" прапаганду.

**— Арышты кандыдатаў сьпіску № 18.** Апошнімі днямі ў Бэрэзе-Картускай арыштаваны гр. Салавей, а ў Ашмяне—Галяс, кандыдаты сьпіску № 18. Абодва арыштаваныя пасаджаны ў вастрог.

**— 3 жыцьця беларус. студэнтаў у Вільні.** У нядзелю 26.II 28 г. а 7 гадз. у вечары ў памешканьні Б. С. С., вул. Сьв. Ганны № 2, адбудзецца літэрацкі вечар, на якім выступяць маладыя поэтыцкія сілы — студэнты з Бел. Студэн. Саюзу.

Уваход за рэкамэндацыямі.

**— Зацьверджаньне канфіскаты „Сялянскай Нівы".** Віленскі акружны суд на сваім гаспадарчым паседжаньні 7 лютага г. г. зацьвердзіў канфіскату № 12 „Сял. Нівы".

---

разьвяжа ўсё, і наша пачуцьцё, завілае да дзіваў, адкрые перад намі новы небасхіл не перажытых уцехаў; там яно — жыцьцё, вартае нас!.. Паважайце і любіце адзін аднаго і, ідучы думнай і сьмелай дружнай да перамогі, не сумлявайцеся ні ў чым, бо што ёсьць вышэй вас?.. Агляньцеся назад і паглядзеце, чым вы былі раней, — там, на пачатку жыцьця? Уся ваша вера тагды ня мела цаны аднэй кроплі сумліву — цяпер... Навучыўшыся так страшна сумлівацца ўва ўсім, вам прышоў час уверыць у сябе, толькі вялікая сутнасьць можа дайсьці да такога сумліву, да якога вы дайшлі!.. Туды—у краіну шчасьця! Туды—у гэта чарадзейнае „наперад"!

— Наперад! — крыкнулі птушкі, бо ў іх сэрцах загарэлася задаваленьне сабою.

Сьлёзы натхненьня перапоўнілі вочы чыжыка, ён усё гаварыў і клікаў туды — наперад! І ўсе птушкі пялялі, усім стало так лёгка, хораша, добра, і ўсе адчувалі, што ў сэрцах радзілася магутнае жаданьне жыцьця і шчасьця.

— Выбачайце, выбачайце!... Я прашу слова... Слова мне!...

Гэта крычаў дзяцел з вярхушкі асіны, і калі яго пачулі, дык яму зараз-жа далі слова, дзеля-таго, што надта-ж моцна крычаў.

— Паважаныя грамадзянкі і паважаныя грамадзяне — загаварыў дзяцел. — Як бачыце: я дзяцел. Я кармлюся чарвякамі і люблю праўду, якой няўхібна служыў, якая мяне прымушае сказаць вам, што вас у нялюдзкі спосаб ашукваюць. Усе гэтыя песьні і сказы, слуханыя вамі тут, паважаныя грамадзянкі і паважаныя грамадзяне, ня больш, як нясумленнае ашуканства, што я і буду мець гонар вам даказаць з фактамі ў руках... З фактамі ў руках, паважаныя грамадзяне! Спытайцеся грамадзяніна Чыжа, дзе тыя факты, якімі ён мог-бы, падцьвердзіць тое, што сказаў? Іх у яго няма, а яны яму бязумоўна патрэбны балей, чым мне; яны-усе, паважаныя грамадзяне, і ўсе мы — ня больш, як толькі дробныя факты, якія падмацоўваюць вялізарны факт мудрасьці і магутнасьці прыроды, якой мы мусім падпарадкавацца, як дзеці маці.

„Разгледзім бесстаронна, што ёсьць там — наперадзе, куды кліча нас грамадзянін Чыж. Усе вы лёталі на акраіну гайнічку і знаеце, што зараз-жа за ім, пачынаецца поле, летам голае і спаленае, зімою пакрытае халодным сьнегам: там на краю яго ёсьць вёска, і ў ёй жыве Грышка, які займаецца паляваньнем на птушак. Вось першая станцыя па-дарозе „наперад", аб якім тут так многа нагаварыў грамадзянін Чыжык.

Дапускаючы, што мы пусьцімся наперад згодна яго жаданьню, — у бескарысвасьці якога я пазволю сабе сумлівацца, бо ведаю, што чыжыкі, як і ўсе іншыя істоты, не ганьбуюць папулярнасьцю і славай і г. п., — думаючы, што мы шчасьліва мінём сеткі Грышкі і зможам памінуць вёску, мы ізноў такі пападзём у поле; а ў канцы яго ізной спаткаем вёску, а потым ізноў — поле, вёска, поле... і дзеля таго, што зямля круглая, дык мы і павінны будзем няўхібна далятаць да таго самага гайнічку, у якім у гэты мамэнт я маю гонар з вамі гаварыць.

Ці-ж гэта тая краіна, у якой, згодна слоў грамадзяніна Чыжыка, мы атрымаем нагароду за нашу працу?... Ці-ж гэта яна?!..

Я знаю вас, паважаныя грамадзянкі і паважныя грамадзяне, я знаю, як высока вы лётаеце, але... як ня горка гаварыць мне вам гэта, — я знаю і тое, што ніхто з вас не ўзьлятаў і ня можа ўзляцець вышэй самога сябе.

Проба грамадзяніна Чыжыка зьвярнуць на сябе агульную вашу ўвагу дарогаю атуманеньня бліскучымі і моцнымі сказамі, ясна паказваюць ступень высаты яго погляду на вас, як аб істотах... Гэта проба павінна быць жорстка пакарана, паважаныя прамадзянкі і паважаныя грамадзяне!...".

І з поўным перакана246ньнем у паважнасьці выкананага ім грамадзкага абавязку, аглядзеўшы слухачоў, стаў дзёўбаць кару асіны, на галінах якой сядзеў.

Птушкі моўчкі глядзелі на чыжыка і бачылі, як з яго вачэй каціліся сьлёзкі.

Аб чым ён мог плакаць, як ні аб сваёй віне перад імі? Такі мізэрны, шэранькі, ілжывы чыжык!

А ён панура глядзеў туды, у даль гэтак, як-бы яго вочы разьвіталіся там з нечым.

Маўчаў гайнічок, і птушкі ціха разьляталіся на свае месцы. Паляцеў і дзяцел, яго праводзіла павага іншых за яго мудрасьць.

І вось чыжык, які лгаў, астаўся адзін. Нярухавы і прыгнечаны, ён сядзеў на галінцы арэшніку і толькі адна сойка з цікавасьцьцю пазірала на яго з баязьлівай дрыжучай ліствы асіны. Але гэта ёй скора набрыдла, і, насьмешліва сьвіснуўшы, яна паляцела...

А чыжык астаўся адзін, і седзячы на галінцы арэшніку, разважаў:

„Я маніў, але, маніў, дзеля таго, што мне няведама, што там за гайнічком; але-ж верыць і надзеецца так добра!... Я-ж толькі хацеў прабудзіць веру і надзею, — і вось дзеля чаго і маніў... Ён, дзяцел, можа быць і праўду казаў, але-ж на вошта патрэбна яго праўда, калі яна каменем кладзецца на крыльлі і не дазваляе высока ўзьлятаць у неба?...

І агляну ўшыся кругом, бедны маленькі чыжык нахохліўся.

Вось і ўся гісторыя...

Прачытаўшы яе, ты, разумеецца ўгледзішь, што чыжык вельмі добры, але-ж ня мае веры, а дзеля гэтага бедны духам; дзяцел рассудны, але подлы, а птушкі — слухачы спагадлівыя, толькі дзеля таго, што цікавыя, але ў істоце чэрствыя сэрцам і недалёкія, недалёкія, ўзрокам недалёкія... Угледзеўшы гэтае, ты падумаеш, што я не праўдзіва расказаў гэтую да сьлёз сьмешную гісторыю.

Думай так, калі гэта цябе цешыць, думай!...

---

**Грамадзяне Беларусы! Галасуйце за сялянска-работніцкі сьпісак 18**

18 18 18 18 18 18 18

